“Для чалавека няма няшчасця жудасней рабскага лёсу” (Сафокл)



# ШКЛОЎ-інфо

№6 (108) сакавік 2015

ПАЗНАВАЛЬНА-АНАЛІТЫЧНАЯ МЯСЦОВАЯ ГАЗЕТА

Выходзіць 2 разы ў месяц

Заснавана ў ліпені 2009 г.

В Орше по подозрению в **незаконном обороте наркотиков** задержан бывший воспитатель Шкловской школы-интерната для детей с нарушениями зрения, работавший до этого в инспекции по делам несовершеннолетних.

**“Дажынкі-2015”.** Круглянскі райвыканкам рэкамендаваў арганізацыям, прадпрыемствам і ўстановам да 10 сакавіка 2015 года пералічыць грашовыя сродкі, заробленыя ў Дзень безаплатнай працы на працоўных месцах, “у дабраахвотным парадку на пазабюджэтны рахунак Круглянскага раённага выканаўчага камітэта”.

Государственный комитет по имуществу Республики Беларусь объявил о проведении работ по продаже на аукционах и по конкурсу принадлежащих Республике Беларусь акций промышленных предприятий **ОАО «Могилевхимволокно»** (доля государства 90,5% акций) и 47,83% из принадлежащих государству 97,83% акций **ОАО «Могилевдрев».**

**Совет Европы** продлил на полгода персональные санкции в отношении 150 физических и 37 юридических лиц Российской Федерации, которых Евросоюз считает причастными к нарушению территориальной целостности Украины. Срок действия этих ограничений истекает 15 сентября 2015 года.

Поводом для продления санкций стало резкое обострение ситуации на Востоке Украины в январе 2015 года.

## Беларуская Народная Рэспубліка




Лагічным завяршэннем барацьбы шматлікіх пакаленняў беларусаў за адраджэнне сваёй дзяржавы стала абвяшчэнне ў 1918 годзе Беларускай Народнай Рэспублікі. Першы Усебеларускі з’езд (снежань 1917 года) выказаўся большасцю галасоў за права беларусаў самім вызначаць свой лёс. Але такі крок беларусаў уступаў у супярэчнасць з думкай бальшавіцкага ўрада. Таму Першы Усебеларускі з’езд быў сілай зброі разагнаны, а яго прэзідыум арыштаваны. Але ж з’езд паспеў стварыць выканаўчы орган – Раду – і перадаў ёй паўнамоцтвы. Бальшавіцкі ўрад не звяртаў увагі на інтарэсы іншых народаў і заключыў 3 сакавіка 1918 года з Германіяй так званы “Брэскі мір” без удзелу прадстаўнікоў Беларусі. Па гэтаму дагавору большая частка нашай Радзімы перадавалася Германіі (напрыклад, Шклоў быў падзелены па Дняпры мяжой. Асноўная, правабярэжная частка адыходзіла немцам, а левабярэжнае Зарэчча заставалася Расіі). Пасля ўцёкаў з Мінску бальшавікоў, 19 лютага 1918 года, улада перайшла ў рукі Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага з’езда. У ноч з 24 на 25 сакавіка, на пасяджэнні Рады было прынята рашэнне аб абвяшчэнні незалежнасці ***Беларускай Народнай Рэспублікі***. З гэтага моманту абрэвіятура ***БНР*** ня толькі пазначае палітычную рэальнасць, але мае і вялікую духоўную моцнасць.

Новая незалежная беларуская краіна была названа па прыкладу паўднёвых суседзяў, украінцаў, якія яшчэ ў лістападзе 1917 году ўтварылі Украінскую Народную Рэспубліку. Менавіта Украіна першай і прызнала БНР як суверенную дзяржаву. І менавіта украінцы найбольш спрыялі беларускаму незалежніцкаму ўраду. У далейшым дзяржаўнасць і незалежнасць Беларусі была прызнана: Чэхаславаччынай, Аўстрыяй, Фінляндыяй, Польшай, Турэччынай, Летувой, Латвіяй, Эстоніяй, Арменіяй і Грузіяй. Пасля вымушанай эміграцыі кіраўнікоў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

ідэі БНР захоўвалі пакаленні беларускіх эмігрантаў як сімвал, як сцяг. Сотні тысяч беларусаў ва ўсім свеце шануюць гэту дату. Вялікая колькасць беларусаў у сучасны момант пражывае ў ЗША, Канадзе, некаторых краінах Паўднёвай Амерыкі, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Францыі, Бэльгіі, Галяндыі, Іспаніі, Італіі, Швейцарыі, Нямеччыне, Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы, Балгарыі, Летуве, Латвіі, Эстоніі, у краінах Скандынавіі, Расеі, Украіне і шэрагу іншых краінаў былога СССР. Усяго за межамі Беларусі сёння жыве больш за тры мільёны беларусаў і іх нашчадкаў.

У 16-ці з гэтых краінаў беларуская дыяспара мае свае арганізацыі і ўстановы. У 14-ці з іх жывуць сябры Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэтых краінах праводзяць сваю дзейнасць дзесяткі розных арганізацый і ўстаноў. Сярод іх ёсць грамадзкія, палітычныя, культурна-асветныя, навуковыя, выдавецкія, камунікацыйныя, арганізацыі моладзі і студэнтаў, розныя фонды і фундацыі, рэлігійныя ўстановы розных веравызнанняў і юрысдыкцыяў, дабрачынныя ўстановы ды дзесяткі, калі ня сотні, прадпрыемстваў, уласнікамі якіх альбо кіраўнікамі з'уляюцца прадстаўнікі беларускай дыяспары. Інтэлектуальны капітал выхадцаў з Беларусі на сучасны момант вельмі значны. Навукова-культурнымі цэнтрамі эміграцыі сталі Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку (з 1951 года), такі ж інстытут у Канадзе (1967), Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане (1971), Інстытут беларусаведства ў Ляймене (Германія). Многія замежныя універсітэты маюць беларускія аддзяленні, факультэты, кафэдры беларускай мовы і літаратуры. Душпастарскую місію на эміграцыі выконваюць Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква і Беларуская каталіцкая місія.

Па-ранейшаму, для беларускіх патрыётаў, якія ў сакавіцкія дзень выходзяць на вуліцы беларускіх гарадоў, БНР – сімвал волі, дэмакратыі, незалежнасці ды заможнага жыцця. Сімвал нашай прыналежнасці да Еўропы.

Сёння, крамлёўскім лету-ценнікам, пад выглядам міфічнага "Русского мира", зноў вельмі карціць знішчыць суседнія дзяржавы. Зноў, суседняя Украіна вымушана змагацца за сваю незалежнасць. І зноў льецца братазабойственная кроў. Зрэшты, як і на працягу стагоддзяў, змагаюцца украінцы "За нашу і вашу свабоду". І няхай сёння зноў гучыць і надае нам аптымізму прыйшоўшы да нас з глыбокай старажытнасці лозунг, у якім зліліся і малітва і заклік да беларусаў:

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

***Рэдакцыя газеты "Шклоў-інфо"***

## АБ ЧАРГОВАЙ ПРАФАНАЦЫІ САВЕТА МІНІСТРАЎ

**10 лютага 2015 г. Прэзідыюм Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь на сваім паседжанні адобрыў Нацыянальную стратэгію ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на перыяд да 2030 года.**

**Адкрываючы паседжанне, прэм'ер-міністр РБ А.Кабякоў падкрэсліў, што перад аўтарамі стратэгіі стаяла задача – улічыць у ёй сусветныя тэндэнцыі, якія абумоўліваюць рызыкі для ўстойлівага развіцця нашай краіны.**

**Дакумент быў падтрыманы Прэзідыюмам. У час паседжання паступілі прапановы, з улікам якіх стратэгія будзе яшчэ дапрацавана і пазней зацверджана пастановай Савета Міністраў.**

Праект Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на перыяд да 2030 г. быў распрацаваны Навукова-даследчым эканамічным інстытутам і вынесены Міністэрствам эканомікі на грамадскае абмеркаванне яшчэ ў лістападзе 2014г. Да ідэі напісання стратэгіі кіраўніцтва краіны схілілася пасля ўдзелу беларускай дэлегацыі ў Канферэнцыі ААН па ўстойліваму развіцці ў 2012 годзе, г.Рыа-дэ-Жанэйра.

Вызначаючы перспектывы бачання нашай краіны праз 15 год, аўтары Нацыянальнай стратэгіі выдзелілі пятнадцаць пунктаў у выпрацоўцы канкрэтных напрамкаў дзеянняў па асноўных кампанентах устойлівага развіцця.

Адзін з іх - №1 вызначае, што Беларусь – незалежная прававая дэмакратычная дзяржава, захоўваючая сваю тэрытарыяльную цэласнасць і культурна-гістарычную спадчыну… Беларусь будучага – гэта бяспечная краіна, дзяржава законнасці і парадку, справядлівасці і салідарнасці, партнёрства і адказнасці, дзе захоўваюцца ўсе правы чалавека, надзейныя інстытуты абароны прыватнай уласнасці, прафесійна працуюць органы правапарадку, карыстаючыяся даверам грамадзян.

У пункце №4 пазначана, што асновай эканомікі з'яўляюцца – канкурэнцыя і сучасныя развітыя інстытуты рынка. Значны ўклад у рост эканомікі належыць малому і сярэдняму бізнэсу, для развіцця якога забяспечаны роўны доступ да рэсурсаў, створана развітая інфраструктура, канкурэнтнае асяроддзе і сістэма гарантаванай абароны ўласнасці. Кожны грамадзянін можа паўнавартасна рэалізаваць сябе ў прадпрымальніцтве. Бізнэсу

выгодна і прэстыжна інеставаць праекты па стварэнні сучаснай вытворчай і сацыяльнай інфраструктуры.
А пункт №14 нават прысвечаны мясцоваму кіраванню і самакіраванню. Дзе сказана, што сістэма органаў мясцовага кіравання і самакіравання матывавана ў эфектыўным упраўленні мясцовымі рэсурсамі і нясе адказнасць за комплекснае развіццё сваіх тэрыторый, гарантуе фінансавую самастойнасць рэгёнаў. Яшчэ шмат чаго сказана ў дадзенай стратэгіі: аб прамысловасці, аб сельскай гаспадарцы, аб ЖКГ, аб неабходнасці пераходу да Балонскай сістэмы ў галіне адукацыі…
Ды чытаючы дадзены дакумент вельмі слаба верыцца ў яго практычную рэалізацыю. Бо разнастайных канцэпцый, праграмаў, пастановаў, рашэнняў у розных сферах сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, скіраваных на “павышэнне ўзроўню жыцця беларускага народу”, за апошнія два дзесяцігоддзі было прынята вельмі багата. Але ж іх выкананне не прынесла для грамадзян ніякай карысці, а нярэдка – толькі шкоду. Вось і зараз…
Аб якой законнасці і парадку, дзе захоўваюцца ўсе правы чалавека можа ісці размова, калі за часам распрацоўкі і прыняцця стратэгіі ў краіне за кратамі знаходзяцца незаконна асуджаныя палітычныя зняволеныя?
Аб якой справядлівасці і салідарнасці, партнёрстве і адказнасці мы можам казаць, калі ў Беларусі да гэтай пары затрымліваюцца і атрымліваюць пакаранне людзі, усклаўшыя кветкі ў знак салідарнасці з загінуўшымі актывістамі Майдану ў Кіеве і журналістамі ў Парыжы?
Аб якім захаванні культурна-гістарычнай спадчыны ідзе гаворка ў гэтым дакуменце, калі ў гэты ж час дзесяткі актывістаў партый і грамадскіх арганізацый падвяргаюцца рэпрэсіям з боку сілавых структраў і судоваму пераследу толькі за наведванне і ўскладанне кветак да мясцінаў звязаных з паўстаннем пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага?
Аб якой канкурэнцыі, якім развіцці малога і сярэдняга бізнэсу ў Беларусі можна казаць, калі тут жа Указам №222 ад 16 мая 2014 году гэты бізнэс руйнуецца?...
У бліжэйшы час Урадам будзе прынята чарговая пастанова аб Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага развіцця Беларусі, і прэм’ер-міністр Кабякоў сваім подпісам зацвердзіць гэтую пастанову, як гэта рабілі ў свой час Сідорскі, Мясніковіч ды іншыя. І тут жа з “чыстым сумленнем”, калі яшчэ нават не паспеюць высахнуць чарнілы на яго подпісах, усе забудуцца аб ёй, як гэта было раней з іншымі падобнымі дакументамі.
А навошта абцяжарваць сябе памяццю аб іх? Бо тады ж неабходна рабіць намаганні па іх выкананні. А ў такім выпадку трэба будзе прымаць меры па рэфармаванні беларускага заканадаўства аб мясцовым самакіраванні, распрацоўцы стратэгій устойлівага развіцця для кожнай тэрытарыяльна-адміністрацыйнай адзінкі краіны, як гэта патрабуе Еўрапейская Хартыя мясцовага самакіравання. А гэта зрабіць у сучасных умовах практычна немагчыма, бо чынавенства на месцах па свайму стану зараз не здольна падрыхтаваць неабходныя дакументы, адпавядаючыя міжнародным стандартам.
Дык для чаго ж распрацавана гэтая Нацыянальная стратэгія?
Ды толькі для таго, каб прадэманстраваць наяўнасць дадзенага дакумента перад міжнароднай супольнасцю і скарыстаць гэты факт у плане вырашэння пытанняў дзеля атрымання крэдытаў і фінансавай падтрымкі з боку Еўрапейскіх структураў на “развіццё беларускага грамадства і дэмакратыі”.
Трэба адзначыць, што паспяхова вырашаць пытанні па атрыманні фінансавай падтрымкі з Еўропы на развіццё беларускага грамадства, на іншыя праекты нашыя чыноўнікі навучыліся даўно. Вось толькі пытанне, як гэтыя фінансы выкарыстоўваюцца, ужо шмат год застаецца для беларускага грамадства закрытым. Ну, а як развіваецца самое гэтае грамадства, як развіваецца дэмакратыя ў нашай краіне, можа “змястоўна адчуць” на сваіх плячах любы грамадзянін Беларусі.

Намеснік старшыні БНФ
***Р.Кастусёў.***

## Шклоўскі раён у свеце грамадскага меркавання. 2014 г.

У снежні 2014 г. у Шклоўскім раёне сябрамі грамадзянскай ініцыятывы “Шклоўскі магістрат” быў праведзены маніторынг выказванняў жыхароў па розных напрамках: ацэнка эфектыўнасці дзейнасці арганізацый і служб, якія падпарадкоўваюцца мясцовай уладзе; адносіны насельніцтва да вынікаў працы асобных галін эканомікі ці суб’ектаў гаспадарання. Многія з выказаўшыхся звярнулі ўвагу на дзейнасць грамадскіх арганізацый, нават, апазіцыі, праваслаўнай царквы і каталіцкага касцёлу. Не абмінулі ўвагай сродкі масавай інфармацыі – як дзяржаўныя так і недзяржаўныя газеты, інтэрнэт (амаль усе выказаўшыяся карыстаюцца гэтым сродкам інфармацыі). Асаблівая ўвага была звернута на магчымасці жыхароў раёну, што вызначаюць якасць жыцця: даходы, магчымасць працаўладкавання, і правядзення вольнага часу. Шмат

хто засяродзіўся на якасці пітной вады, на вывазцы смецця, прыборцы вуліц. Прагучалі і іншыя нараканні і пажаданні, якія тычацца жыллёвай тэматыкі, а таксама выказванні па канкрэтных праблемах, на якія, дарэчы, чамусьці не звяртае ўвагі мясцовая ўлада, што заканамерна падвышае “градус” стаўлення да мясцовых чыноўнікаў.

Спектр прапаноў па паляпшэнню жыцця не такі ўжо і вялікі, але ён не ў меньшай ступені, чым адзначаныя выказаўшыміся жыхарамі праблемы горада і вёскі, закранаюць сутнасць і ўсебаковасць праведзенага маніторынгу ініцыятыўнай групай ГІ “Шклоўскі магістрат”.

Усяго ў ходзе маніторынгу выказалася 500 жыхароў Шклоўскага раёну: з іх 66% пражывае ў горадзе, 34% на вёсцы, мужчын – 42%, жанчын – 58%. Узроставая структура: 18-30 гадоў – 17%, 31-45 год – 27%, 46-60 гадоў – 37%, старэй 60 гадоў – 19%. Па ўзроўню адукацыі: сярэднюю адукацыю маюць 31% выказаўшыхся, сярдне-спецыяльную – 40%, вышэйшую – 29%.

**Якасць функцыявання мясцовай улады і яе служб** ацэнена наступным чынам: дзейнасць райсавета не атрымала ніводнай добрай адзнакі ў мясцовых жыхароў – ці не паказчык эфектыўнасці працы былога старшыні райсавету М.Паўловіча? Райвыканкам атрымаў нездавальняючых адзнак у тры разы болей, чым добрых – таксама інфармацыя для роздуму адказным за справы мясцовай улады таварышам. Некалькі лепш «справы» у сілавых структур раёну: хоць насельніцтва і не вельмі добра да іх адносіцца, але і не так «катастрафічна», як да мясцовых улад. Найбольш жа станоўчыя адносіны выказаўшыхся шклаўчан да супрацоўнікаў аддзела міністэрства надзвычайных сітуацый (пажарнікаў). Вельмі негатыўныя адносіны да якасці працы ЖКГ, бальніцы, бытавых паслуг, рынку. У той жа час вельмі станоўча шклаўчане ацэньваюць якасць працы работнікаў аптэк, стаматалогіі, хуткай дапамогі, гаргазу, сувязі, пошты, бібліятэк, Дому культуры, банкаў, страхавання, музея, адукацыі і санстанцыі.

Характэрна, што **ніводная галіна эканомікі** раёну не атрымала ў выніку маніторынгу станоўчых ацэнак. Найбольш негатыўна насельніцтва адносіцца да вынікаў працы прадпрыемстваў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, дарожнай службы. Ёсць нараканні на дзейнасць будаўнічых арганізацый, дзяржаўнага і прыватнага (у меньшай ступені) гандлю, фермераў і ўладальнікаў асабістых гаспадарак. Хто ў гэтым вінаваты – пытанне ў першую чаргу да ўладаў, бо якраз яны і рэгулююць адносіны ў эканоміцы раёну.

Не зусім прыемныя і адносіны выказаўшыхся да **праўладных грамадскіх структур**: прафсаюзаў (нездавальняючых адзнак у 7 разоў болей за добрых), “Белай Русі” (у 4 разы), БРСМ (больш чым у 2 разы). Пры гэтым, вельмі добра насельніцтва адносіцца да дзейнасці царквы і касцёла.

Вялікая ўвага выказаўшых свае думкі была звернута на **сродкі масавай інфармацыі**. Трэба дадаць, што жыхары раёна даволі шырока карыстаюцца магчымасцю атрымліваць інфармацыю з розных крыніц, у тым ліку, з інтэрнэту, недзяржаўнай прэсы і замежных тэлевізійных каналаў. Высокую ацэнку атрымалі ўсе дзяржаўныя сродкі інфармацыі, акрамя раёнага тэлебачання.

Што тычыцца **магчымасцей насельніцтва**, то ў лідэрах **негатыв**у магчымасць працаўладкавання, узровень даходаў, якасць жылля, прыборка вуліц, якасць спажываемай вады і правядзенне вольнага часу. Вельмі добра жыхары адзываюцца на арганізацыю вывазу смецця. Што ж, хоць штосьці добрае ёсць у Шклове.

***ГІ “Шклоўскі магістрат”***

## Губернатар

Апошнім часам гэта слова ўсё больш навязліва стракаціць ў беларускіх газетах, гучыць на тэлебачанні і радыё. Праводзіцца мэтанакіраваная палітыка, каб прывучыць беларусаў да думкі існавання беларускай губерні ў складзе Расійскай імперыі, або робіцца гэта журналістамі, зацыклінамі на расійскіх падзеях, адказаць складана. Аднак, гэта слова паступова ўваходзіць ў беларускі палітычны лексікон. Безумоўна, слова “губернатар” – гучнае, фанабэрыстае і дайшло да нас са Старажытнага Рыму. Не змяніўся і ягоны змест – валадар, загадчык, прызначаны кіраваць кавалкам краю. Пасля анексіі беларускіх зямель Расійскай імперыяй, тэрыторыя Беларусі была падзелена ў асноўным на наступныя губерні: Магілёўскую, Мінскую, Віленскую, Гарадзенскую і Віцебскую, пры гэтым апошняя разлягалася ледзь не да Эстоніі. На чале губерняў стаялі прысланыя з Расіі чыноўнікі, якія разглядалі сваю пасаду як прыступку да далейшай кар’еры. Напрыклад гарадзенскі губернатар Сталыпін па вяртанні на радзіму стаў міністрам унутраных спраў. Непасрэдна губернатараў прызначаў цар. У сваю чаргу, прыбыўшы на новае месца, новы губернатар прывозілі і спадручных “для сабе” чыноўнікаў. Падпарадкоўваліся губернатары толькі сенату і пракуратуры ў далёкім Пецярбурзе. Дзесяткі губернатараў змянялі ў нас адзін аднога. Сярод іх былі розныя людзі – адны вельмі любілі

расстрэльваць і вешаць мясцовах вольнадумцаў, другія садзілі паркі, але іх усіх лучыла тое, што яны былі ў Беларусі чужыя. У мэтах стварэння на далучанай тэрыторыі надзейнай сацыяльнай апоры расійскаму самаўладству імперыя пачала шырокую раздачу зямель з сялянамі рускім памешчыкам, найперш з ліку сваіх фаварытаў і буйных чыноўнікаў. Пацягнуліся на новыя ўладанні і тыя, каго абышлі чынам, месцам, або ўзнагародай, чыя гаспадарка прыйшла ў заняпад, а па-сапраўднаму працаваць не было ні жадання, ні ўмення. У сваіх успамінах імператарскі чыноўнік асобых паручэнняў А. Масалаў пісаў, што на Беларусі ўсе гэтыя чыноўнікі адчувалі сябе не вельмі добра, бо вымушаны былі жыць у варожым акружэнні і ад смутку ў асноўным "пілі горкую" і "гулялі ў карты". Губернская канцылярыя Магілёва, якой правіў Васіль Алоеўцаў, стала мекай для авантурыстаў, якія дамагаліся годных месцаў. Алоеўцаў і раздаваў іх, таму яго чыноўнікі "чтили как золотого тельца". Пры ім пасля працы ладзіліся шумныя п'янкі. Нават праваслаўны епіскап Г.Каніскі скардзіўся губернатару М.Кахоўскаму на начныя сходы канцылярыстаў, бо тое "соблазнительно для истинных христиан и душегубно для няверных". Пасля 1917 года губернатараў ня стала і пра іх забаліся. Напрыклад, імёны апошняга віленскага губернатара, нейкага Вяроўкіна, альбо віцебскага, нейкага Галахава, ужо нічога нікому ня кажуць. Адзіная ў савецкай Расіі беларуская губерня з цэнтрам у Гомелі была ўтворана ў 1919 годзе, пакуль горад Гомель і частку беларускай тэрыторыі вярнулі ў 1926 годзе ў склад БССР. Адпаведна, называць сёння словам губернатар цяперашніх вертыкальшчыкаў – кіраўнікоў беларускіх абласцей, у лепшым выпадку – памылка. Губернатараў у Беларусі няма. На чале ўлады ў вобласці стаіць старшыня абласнога выканаўчага камітэта. Больш таго, яшчэ ў 1987 годзе у Беларускім НДІ праектавання і градабудаўніцтва (БелНДПІ градабудаўніцтва) была распрацавана Генеральная схема комплекснай арганізацыі тэрыторыі Беларусі. Згодна з гэтай схемай на Беларусі пларавалася рэформа адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу. Чатырохзвенная сістэма дзяржаўнага кіравання, якая існуе сёння (рэспубліка – вобласці – гарадскія – раённыя – сельскія саветы) павінна быць замешчана трохзвеннай (рэспубліка – 20 тэрытарыяльныя комплексы – 388 мясцовых сістэм рассялення), што адпавядае міравой практыкі для сярэдніх і невялікіх дзяржаў. Галоўнай прычынай неабходнасці новай адміністрацыйнай рэформы з'яўляецца несуадноснасць падзелу і сацыяльна-эканамічнага раяніраванія тэрыторыіі, што перашкаджае фарміраванню аптымальнага арганізаванага для жыццядзейнасці насельніцтва. Адным з асноўных напрамкаў рэформы, на раду з іншымі, была скасаванне абласнога дзялення. Менавіта вобласці, як асноўныя адзінкі адміністрацыйнага падзелу не адпавядаюць наяўным сацыяльна-эканамічным сувязям тэрыторый і буйнейшых гарадоў. Горад Бабруйск, напрыклад, па ўзроўню эканамічнага патэнцыялу і развіццю сацыяльнай сферы не адстае ад абласнога цэнтра, акрамя таго, ён больш імкнецца да Мінскага гаспадарчага вузла, чым да Магілёва. Горад Горкі, таксама больш цягнецца да суседняй Оршы. І такія прыклады ёсць у кожным рэгіёне Беларусі. У Магілёўскай вобласці зараз прыкладна 240 адзінак адміністрацыйнага падзелу рознага рангу. Пры ўмовах правядзення рэформы, іх колькасць зменшыцца да 63, у тым ліку 3 тэрытарыяльных комплекса і 60 мясцовых сістэм кіравання. Такім чынам, скарачэнне адзінак адміністрацыйнага падзелу будзе амаль ў 4 (чатыры) разы. І гэта дасць значную эканомію сродкаў, якія магчыма лепш накіраваць на іншыя дзяржаўныя патрэбы. Скасаванне абласцей прывяло б і да абмежаванне росту абласных цэнтраў, выклікаўшы ўзбуйненне іншых гарадоў. У канчатковым плане гэта прывяло б да дэканцэнтрацыі прамысловасці, а значыць, і да ліквідацыі іх манаполіі на большы ўзровень сацыяльнай сферы. Аднак, ці пойдзе сучасная беларуская ўлада на скасаванне колькасці адміністрацыйна-дзяржаўных адзінак і адпаведна колькасці дзяржаўных службоўцаў? Улада, якая галоўным накірункам у сваёй дзейнасці выкарыстоўвае выключна каманднa-адміністрацыйны метад кіравання. На мой асабісты

погляд – **НІКОЛІ!** Уявіце сябе, што напрыклад у Магілёве, скароцяць супрацоўнікаў у вялікіх васьміпавярховых будынках аблвыканкама і гарвыканкама. Менавіта тых супрацоўнікаў, на якіх апіраецца ўлада для выканання ўласных, як вельмі неабходных, так і не вельмі абгрунтаванных рашэнняў. Карацей гаворачы, ці будзе ўлада піліць сук на якім яна сядзіць? Вось па гэтаму, на маю асабістую думку, ўсё болей настойліва і толькі ў станоўчым сэнсе гучыць слова губернатар. Відавочна, што даўно наспела неабходнасць новай адміністрацыйнай рэформы, якая павінна ўзяць усё лепшае, што дае мінулае і замежны вопыт. Але, "яго вялікасці" чыноўніку, напэўна лепей па-ранейшаму, як і ў Расійскай імперыі толька выконваць загады вышэйшых узроўняў, патрабуючы іх выканання з ніжэйшага ўзроўня, пры гэтым дадаткова не цурацца і тым, што "соблазнительно для истинных христиан и душегубно для няверных". ***А.Петрусевіч***

# «Дожиночные» фантазии Халайды

Халайда (местн. – псевдостратег)

Сельское хозяйство Могилевской области по итогам работы за прошлый год оказалось в глубоком нокдауне – от удара действительности по некомпетентности областного и районного руководства (да и всей власти в целом) убытки АПК области перевалили за 200 млрд. рублей. При этом отрасль в целом по стране сработала с прибылью в 140 млрд. рублей. Из 167 сельскохозяйственных организаций Могилевской области 103 или 62% убыточны, а сумма убытков у них составила 2 739 млрд. рублей. По итогам работы за 11 месяцев 2014 г. наибольшую экономическую некомпетентность проявило руководство Могилевского (убытки в 146 млрд. руб.) и Шкловского (31 млрд. руб. убытков) районов. Даже с учетом господдержки эти районы «умудрились» получить убытки. Но, удивительное дело, по итогам года в отчете Шкловского райисполкома фигурирует цифра в 50,8 млрд. руб. прибыли, которую получили сельскохозяйственные организации. При этом мудро сославшись на статистическую отчетность самих же организаций. Также тайной осталось в отчете председателя райисполкома и число убыточных хозяйств, а ведь таковых в районе по итогам 11 месяцев было 85%. Да и откуда быть прибыли у аграрников области, если их финансовые обязательства превышают выручку от реализации в 1,8 раза, а в Шкловском, Чаусском, Глусском, Климовичском, Краснопольском, Осиповичском, Хотимском почти в три раза.

Еще один интересный факт из жизни могилевских сельхозников – Могилевский район (самый убыточный в области), который реализует 19% от областной продукции, получил только 8,6% от выделенных на область бюджетных средств на покрытие убытков; Горецкий район (10% в реализационной корзине сельхозпродукции в области) получил 9,3% средств, а вот Мстиславский район с его 6,6% в реализации почему-то «поимел» область на 7,2% или всего лишь на 7 млрд. руб. меньше, чем Могилевский район, хотя продукции тот реализовал в 2,9 раза больше мстиславчан.

Нужно ли стимулировать таким образом производство, которое катиться вниз? Вопрос может и спорный, но факты говорят о том, что выделенные государством деньги вряд ли на Мстиславской земле окупятся в ближайшее время. Судите сами: в 2014 г. районом выполнено только 3 из 5 прогнозных показателей, индекс промышленного производства составил 91,2 %, объем производства с/х продукции уменьшился на 1,4%. Использовано 283,1 млрд. инвестиций или в сопоставимых ценах 88,1% к уровню 2013 г. За январь-ноябрь экспорт сократился в 12,8 раза, импорт уменьшился в 79 раз. Положительное сальдо сложилось в объеме 2,07 млн. долларов США, что в 12,6 раза меньше, чем в январе-ноябре 2013 г.

Чистая прибыль организаций снизилась на 34,1% (58,4 млрд. руб.), рентабельность продаж составила 4,4% против 8,8% за соответствующий период прошлого года. Рентабельными были 87,5% организаций. В экономике в ноябре было занято 8,8 тыс. чел., что на 5,8% меньше, чем в ноябре 2013 г. при этом уровень безработицы в районе 0,3% от экономически активного населения.

Номинально начисленная среднемесячная зарплата составила 3 994,7 тыс. руб. реальная зарплата в 2014 г. уменьшилась по сравнению с 2013 г. на 4,1%. Мстиславский район по уровню доходов населения входит в десятку самых низкодоходных в республике.

В сельском хозяйстве - численность скота в районе сократилось на 1,4%, реализация мяса – на 18,9%.

Средний надой на 1 корову составил за год 3 466кг (-97 кг) или 97% к уровню 2013 г. Произведено молока на 0,8% меньше (и сейчас Мстиславский район по надою молока не блещет – 13 место в области), мяса – на 6,5%. При этом среднесуточные привесы КРС увеличились на 9 г, а свиней на 6 г. По надоям молока район на 97 месте в РБ. Хозяйства, которые тянут район в низ турнирной таблицы по надоям на 1 корову: ОАО «Селекционно-гибриднщ центр «Вихра» - минус 30 кг, СПК «Сож-агро» - минус 251 кг, СПК «Советская Беларусь» - минус 283, СПК «Мишино» - минус 1035 кг.

В свиноводстве района также масса проблем: на свиноводческих комплексах на протяжении 2014 года не обеспечивалось в полной мере соблюдение соответствующих ветеринарных требований по профилактике и борьбе с африканской чумой свиней: недостатки в организации биологической защиты выявлены в СПК «Мазоловский» и ОАО СГЦ «Вихра» - это ли не причина снижения объемов производства свинины на 10,7%? Впрочем, в этих двух хозяйствах отмечается недостаточно серьезное отношение к технологии кормления свиней: практически не используется комбикорм для поросят-сосунков марки СК-11, специализированный комбикорм в целом по хозяйствам приобретается в объеме 20-30% от потребности, используемый комбикорм собственного производства не проходит регулярного исследования на соответствие требованиям.

Есть проблемы в районе, которые не решаются десятилетиями – загрязнение реки Вихра стоками очистных сооружений г.Мстиславля. но и в текущем году эта проблема решена не будет – для ввода в эксплуатацию очистных сооружений необходимо около 26 млрд. рублей. Необходимое оборудование до сих пор не закуплено. Аналогичная ситуация и со строительством очистных сооружений на свиноводческом комплексе СПК «Мазоловский» - для решения проблемы «недостает» 12 млрд. руб. Требует ремонта дорога «Мазолово-Жератино», о чем многократно говорилось и писалось, но, говорят, что нет денег на восстановление дороги. В тоже время, вдоль трассы на Мстиславль со стороны Могилева активно работают 6 пар «бульдозер-экскаватор» по уничтожению «болотянок» - своеобразная мелиорация «по-мстиславски». Секрет раскрывается просто: мелиораторам нужна работа, но важнее визит губернатора в этот забытый начальством уголок Беларуси. Может дорогу все-таки лучше сделать? Кстати, шведский фермер – один из успешных на скандинавщине, ежегодно обсевает буквально 1м2 земли, который занимает торчащая скала из его участка, не спешит взрывать ее. По его расчетам, ликвидация неудобства для производства сельхозработ окупится только через 100 лет. Считает, что это проблема внуков и они ее должны и решать. И пусть даже сам король Швеции инспектирует его посевы, фермер будет самостоятельно принимать решение о целесообразности данного действия. А может державное око губернатора увидит прогресс в районе через увеличение площади сельхозугодий?

Может и так, но сегодня районные власти озабочены еще и финансовой грамотностью населения. Среди актуальных проблем района, активно обсуждаемых с жителями района, перспектива расширения НАТО на восток, сложившаяся политическая обстановка на Украине, вопросы обеспечения национальной безопасности. Кстати, доклад о социально-экономическом развитии Могилевской области на едином дне информирования сделала библиотекарь (!?) центральной районной библиотеки. Это подчеркивает уровень грамотности населения района.

Но есть и реальные проблемы: наращивание экспорта товаров и услуг, увеличение рентабельности продаж, снижением затрат в с/х организациях, рост валовой продукции. А тут еще УВД настойчиво призывает местное население сообщать о местах и лицах, занимающихся самогоноварением, незаконным ввозом и торговлей спиртным.

Один из нюансов реалий мстиславщины - численность жителей района 22,1 тыс. чел. Миграционная убыль за 2014 г. составила 452 человека (+230 - 682), естественная убыль – 162 чел. Итого за год население района уменьшилось на 614 чел. Или за год по населению район потерял крупный агрогородок. Занимается ли кто анализом ситуации?

Есть и местные курьезы: для наведения порядка на земле в СПК «Мазоловский» привлекались горожане (266 чел.). 24 января 2015 г. (!) на полях близ д.Рожево убиралась сорная растительность, срезались деревья, вырубалась кустарниковая поросль. Что-то похожее есть у них с мелиораторами, которые ударно борются с местами гнездовья птиц в уничтожаемых «болотянках».

Жилья введено в эксплуатацию 7 тыс. м2 или на 4,7% выше уровня предыдущего года. Но вот что интересно – объем подрядных работ по виду деятельности «Строительство» выполнен на

86,5 млрд. руб., что составляет в сопоставимых ценах только 61,6% к уровню 2013 г. Может мы чего не знаем?

Есть и свои сюрпризы: по итогам работы за 2014 год прокуратура Мстиславского района признана лучшей в Могилевской области. При этом, раскрываемость преступлений снизилась на 0,4%. Особенно впечатляет «напряженная» работа прокуратуры на стезе борьбы с коррупцией в районе. По результатам проведения проверок руководителям предприятий внесено 4 представления, вынесено 3 предписания, принесен 1 протест, объявлено 6 официальных о недопустимости нарушения закона. По требованию прокурора к административной ответственности привлечено 1 лицо, к дисциплинарной – 9, к материальной – 4 лица на сумму аж 17874 тыс. руб.

Работа прокуратуры района и сотрудников РОВД позволила выявить одно преступление, связанное с нарушением правил о сделках с драгоценными металлами и 4 преступления, связанные с хищениями путем присвоения или растрат.

Как показывают цифры, слабая работа прокуратуры и сотрудников РОВД, группы БЭП не позволяет выявить коррупционные и другие замаскированные преступления в экономической сфере. Во-всяком случае, фактов взяточничества и злоупотребления служебным положением, совершаемые должностными лицами органов власти и управления, установлено не было. Или прокурор Н.Розанцев не очень откровенен в вопросах коррупционных преступлений в районе?

В 2015 г. будет решаться судьба «Дожинок-2016» в Могилевской области. Мстиславский район претендует на почетное их проведение – именно с дожинками связаны фантазии местного руководства по решению проблем хозяйственного и культурного направлений. Насколько же реальны эти фантазии – покажет время. К сожалению, горючего в районе перед посевной только на 4 дня работы, в полном объеме не завезены минеральные удобрения, есть проблемы с кадрами механизаторов. Нам же остается только пожелать успехов местному руководству и всем жителям района в 2015 году.

***П.Мигурский***

## Доходы России от экспорта нефти и газа снизились на 40%

**Объем экспорта товаров из России** в январе 2015 г. составил 27,5 млрд долларов, что на 30% меньше, чем годом ранее (39,5 млрд долларов). При этом более половины экспорта пришлось на страны ЕС – 14 млрд долларов.

По данным Федеральной таможенной службы РФ, в январе 2015 года Россия экспортировала сырой нефти на 7,9 млрд долларов (в январе 2014 года – 13,5 млрд долларов), нефтепродуктов – на 7,0 млрд долларов (8,1 млрд долларов), природного газа – на 4,0 млрд долларов (6,9 млрд долларов). В итоге снижение доходов от экспорта нефти и газа достигло 40%.

Товарооборот России с Украиной сократился более чем в два раза – с 2,6 млрд долларов до 1,1 млрд долларов.

## За год Беларусь потратила на обслуживание внешнего долга $11 миллиардов

Обслуживание валового внешнего долга Беларуси в 2014 году обошлось в $11057,2 млн. (14,6% ВВП или 25,4% экспорта товаров и услуг).

В прошлом году платежи по основному долгу составили $9634,7 млн., по процентам - $1422,5 млн.

На обслуживание внешнего госдолга потрачено $5080,1 млн. (против $2481,5 млн. в 2013 году), из них $4563,4 млн. – на погашение основного долга, $516,7 млн. – на уплату процентов.

Согласно данным Нацбанка, на 1 января 2015 года валовой внешний долг страны вырос до $40061,4 млн. (52,8% ВВП) с $39621,1 млн. (54,4% ВВП) на начало года.

В расчете на душу населения внешний долг составил $4225,4 на 1 января 2015 года против $4184,7 на 1 января 2014 года.

Международные резервные активы Республики Беларусь на 1 января 2015 года покрывали 12,6% внешнего долга, в то время как на 1 января 2014 года данный показатель составлял 16,8%.

***

Санитарное состояние контейнерных площадок, подвалов жилых домов, бесхозных домов на территории Могилева, несанкционированная торговля и некачественные продукты в магазинах – вот неполный список проблем, озвученных жителями области в ходе **прямой линии 3 марта 2015 г.**

Рэдактар П.Мігурскі Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад: 299 ас.
Адрас: 213018 Магілёўская в., Шклоўскі р., в.Дабрэйка. Тэл. 8 02239 92618
E-mail: agro56@tut.by. РАСПАЎСЮД БЯСПЛАТНЫ. Падпісана ў друк 14.03.2015г.